Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№188 (701) 28 верасня 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.

## ФАКС

### Минск пожимает руку Анкаре

**— Отношения между Беларусью и Турцией развиваются достойным образом, — сказал Председатель Верховного Совета Станислав Шушкевич, который 27 сентября встретился с генеральным секретарем Большого национального собрания Турецкой Республики Муамером Тэли.**

— Нам приятно иметь дело с руководителями азиатской державы, которые владеют европейским менталитетом, — отметил также С.Шушкевич. — Возможно, поэтому за три последних года в отношениях между нашими государствами наступил резкий перелом к лучшему.

Руководитель турецкой делегации также высказал желание и готовность сотрудничества между членами Меджлиса и Верховного Совета.

В понедельник турецкие гости встретились с членами комиссий Верховного Совета по национальной политике и вопросам СНГ, по международным делам и внешнеэкономическим связям.

### Полвека минуло с тех дней

**Городской поселок Комарин отметил день своего освобождения.**

Ровно полвека тому назад 13-ая армия Центрального фронта положила начало освобождению Беларуси от фашистских захватчиков. И Комарин был первым районным центром на этом пути. Ныне это поселок Брагинского района вблизи 30-километровой чернобыльской зоны.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

❑

**Более 4 часов длилось празднество на границе Хотимского района Могилевской области и Суражского района Брянщины.**

Оно было посвящено началу освобождения республики от фашистских захватчиков.

**Николай ЗАПОЛЬСКИЙ.**

### Дежурная часть

**Близ войсковой части в Печах сотрудники Борисовского РОВД задержали группу торговцев оружием.**

У "коробейников" изъято 102 килограмма ртути, 7 гранат с запалами, два прибора ночного видения, бронежилет и бесчетное количество патронов.

❑

**Со склада Минского производственного кожевенного объединения в Гатово похищены 72 кожаные куртки.**

Злоумышленники вынесли их через вентиляционную трубу. Сторожа, охранявшие объект, ничего не заметили.

**Павел МОРОЗ.**

### Вкратце

**Первого октября Беларусь в третий раз отметит День пожилых людей.**

На сегодняшний день в республике проживает 2,7 миллиона пенсионеров, а к 2000 году число их, возможно, возрастет до 3 миллионов.

❑

**Вся экстренная медицинская помощь нашим соотечественникам, находящимся на территории Польши, будет осуществляться теперь бесплатно.**

Такова суть подписанного в Минске соглашения "О сотрудничестве в области здравоохранения и медицинских наук" между Республикой Польша и Республикой Беларусь, которое рассчитано на период до 1995 года.

❑

**Абхазские формирования к утру в понедельник установили контроль над более чем 80 процентами территории Сухуми.**

В случае прорыва основными частями грузинских войск, идущими от Очамчиры, блокады Сухуми положение в корне изменится в пользу грузинской стороны.

❑

**В Таджикистан различными путями проникло не менее 15 тысяч таджикских моджахедов, обучавшихся в Афганистане.**

В отрядах оппозиции есть граждане Пакистана, Саудовской Аравии и других стран исламского мира, желающие "поддержать своих таджикских братьев по вере".

❑

**Российские корабли из состава Черноморского флота продолжили в понедельник вывоз мирных жителей из зоны боев в Абхазии.**

По данным из Гудауты, на территории Гульрипшского района скопилось до 30 тысяч мирных жителей и грузинских военнослужащих.

❑

**Заседание военной коллегии Верховного суда России по делу ГКЧП, которое должно было возобновиться 28 сентября, откладывается до 30 сентября.**

Вынужденный перерыв в судебном заседании вызван болезнью одного из подсудимых — Василия Стародубцева.

### В Москве зловеще клацают затворы

**Угроза гражданского вооруженного конфликта не только в Москве, но и в других регионах России становится все более очевидной.**

В здании российского парламента, окруженном баррикадами, продолжается интенсивное вооружение добровольных дружин под красными флагами. Вчера здесь официально объявлено о сформированном "Первом добровольческом полке особого назначения".

В штабе этого формирования разрабатывается план создания особых частей во всех крупных регионах России. Руководителям советской власти на местах "новым" президентом А.Руцким дано указание приступить к немедленной организации добровольческих отрядов.

Съезд в понедельник срочно учредил институт уполномоченных, которые получили от имени Верховного Совета особые задания по организации сопротивления президентским структурам.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

❑

29—30 сентября в Москве соберется в полном составе Совет Федерации России для того, чтобы обсудить варианты выхода из политического кризиса в стране.

❑

Первый вице-премьер России Олег Сосковец заявил журналистам, что обстановка в регионах остается нормальной и деловой. Все крупные промышленные предприятия работают в прежнем режиме.

### Спорт-экспресс

Баскетболисты минского РТИ в очередном матче чемпионата МПБЛ победили таллиннский "Калев" — 95:66.

❑

Получены некоторые сведения о двух из пяти "уехавших" выступать в НХЛ хоккеистов минского "Тивали". По сообщению агентства ЮПИ, в ходе занятий в тренировочном лагере руководство клуба "Эдмонтон Ойлерз" признало неготовность к играм в основном составе этой команды Александра Журика — он будет отправлен в один из юниорских клубов "Эдмонтона". Сергей Олимпиев также будет выступать за фарм-клуб команды "Нью-Йоркс Рейнджерс".

❑

Хоккеисты минского "Тивали" в чемпионате МХЛ проиграли в гостях московскому "Динамо" — 2:4.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Из первых уст*

## "Тайные вечери" не остановят развал экономики

На минувшей неделе Председатель Верховного Совета Республики Беларусь С.Шушкевич дал эксклюзивное интервью агентству "Интерфакс". В нем он негативно отозвался о меморандуме, с которым выступил Р.Хасбулатов в бытность еше главой российского парламента.

Отвечая на вопрос о вероятности отставки Шушкевича с поста главы парламента на ближайшей сессии Верховного Совета, спикер признал, что "страсть считать меня виновным за просчеты правительства в экономике не угасает. Если раньше это прикрывалось ширмой некоего приличия, то сейчас нет". Председатель Верховного Совета высказал недоумение по поводу участия премьера в "тайных вечерях". Он имеет в виду присутствие Кебича "на разного рода совещаниях, где разрабатываются планы, как отправить меня в отставку". "Никогда не позволял себе проводить подобные мероприятия, направленные против главы правительства", утверждает Шушкевич.

Глава парламента высказал мнение о неспособности ряда нынешних членов правительства управлять экономикой суверенного государства. "Эти люди сильные хозяйственники в области микроэкономики: прекрасные директора заводов, главные бухгалтера и руководители районов. Но на макроуровне они не в состоянии управлять сложнейшим государственным механизмом", убежден Шушкевич.

*Ну колькі можна?*

## У "Правде" зноў напісалі няпраўду

24 верасня ў паведамленні з Беларусі газета "Правда" апублікавала інфармацыю, у якой гаворыцца, што "ў сувязі з падзеямі ў Расійскай Федэрацыі Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь выказаўся адназначна: неабходна выконваць Канстытуцыю і заканадаўства. Іншымі словамі, акцыя прэзідэнта Расіі, які зрабіў дзяржаўны пераварот, прызнана незаконнай".

Як заявілі карэспандэнту Белінфарма ў прэс-службе Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у заяве Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі гаворыцца: "Пачуццё трывогі і заклапочанасці людзей добрай волі выклікаюць падзеі ў Расійскай Федэрацыі. Прызнаючы непарушнасць прынцыпаў міждзяржаўных адносін, павагі суверэнітэту і неўмяшання ва ўнутраныя справы, Прэзідыум Вярхоўнага Савета выказвае надзею, што Расія знойдзе шлях для пераадолення ўзнікшых супярэчнасцей у інтарэсах міру і спакою на аснове Канстытуцыі і заканадаўства". У прэс-службе падкрэслілі, што ў заяве няма ацэнкі падзей, што адбываюцца ў Расіі, а тым больш асуджэння дзеянняў прэзідэнта.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Белінфарм.**

*Служым Рэспубліцы Беларусь!*

## Гвардыя трымае марку

**Сяргей ГРЫЦ, фота аўтара**

50 гадоў назад, у верасні 1943 года, 308-я стралковая дывізія загадам народнага камісара абароны была пераўтворана ў 120-ю стралковую дывізію і за высокае вайсковае майстэрства ў баях за горад Арол ёй было прысвоена званне гвардзейскай. Так што ў гэтыя дні віншаванні прымаюць і ветэраны, і салдаты, і афіцэры, якія зараз нясуць службу ў 120-й гвардзейскай Рагачоўскай Чырванасцяжнай ордэнаў Суворава і Кутузава мотастралковай дывізіі імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Пра тое, як здабывалася слава гвардзейцаў, успамінае старшыня савета ветэранаў дывізіі Міхаіл Іванавіч Варонін.

**❑ Ідзе баявая вучоба танкістаў. Заняткі на палігоне.**

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*З першых вуснаў*

## Вячаслаў КЕБІЧ удакладняе: "Я не лічу, што падпісаныя ў Віскулях заявы — памылка..."

**На мінулым тыдні адбылося пасяджэнне савета Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. З вялікай прамовай на пасяджэнні выступіў Вячаслаў Кебіч.**

Ён расказаў аб мерах урада па выхаду рэспублікі з працяглага і глыбокага крызісу, якія, паводле слоў прэм'ера, часам тлумачацца няправільна.

Прызнаючы справядлівасць папрокаў у адрас урада ў адсутнасці гібкасці пры забеспячэнні рэспублікі энерганосьбітамі, Вячаслаў Кебіч тым не менш нагадаў, што многія прадпрыемствы проста не мелі магчымасці плаціць за нафту з-за адсутнасці грошай. Акрамя таго, дзеянні выканаўчай улады "звязваліся" намаганнямі па падтрымцы сельскай гаспадаркі.

Выхад з працяглага крызісу,— падкрэсліў Вячаслаў Кебіч, — у цесным эканамічным саюзе з Расіяй. Цяпер наперадзе ратыфікацыя дакумента ў парламенце. Ён ні ў якім разе не пазбаўляе нас суверэнітэту, як гэта спрабуюць прадставіць апаненты.

Вячаслаў Кебіч адзначыў: "Я ніколі не лічыў і не лічу, што падпісаныя ў Віскулях заявы — памылка. Віскулі сталі лагічным канцом наяўнага ўжо развалу СССР. Так далей жыць было нельга. Нашы дзеянні ў гэтай сітуацыі былі аднадушна адобраны парламентам.

Але ў далейшым Садружнасць Незалежных Дзяржаў аказалася нежыццяздольнай. Падпісаныя пагадненні, а іх больш за сто, не працуюць так, як хацелася б.

Падпісаны кіраўнікамі Расіі, Украіны, Беларусі дагавор "Аб траістым эканамічным саюзе" не з'яўляецца падменай Садружнасці. Уся гэта работа вядзецца ў рамках таго ж СНД. Ніхто не збіраецца абмяжоўвацца толькі трыма славянскімі дзяржавамі і процiпастаўляць іх астатнім членам Садружнасці. Але калі пагадненні не працуюць у рамках СНД, яны будуць працаваць у двухбаковым варыянце з Расіяй. Я асабіста зраблю для гэтага ўсё магчымае і выканаю волю беларускага парламента. А далей няхай да нас далучаецца хто хоча".

*г.Мінск.*

**Белінфарм.**

*Мы і свет*

## Беларусі патрэбны перш за ўсё інвестыцыі

**У нядзелю Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч прыняў групу германскіх журналістаў, якія прымалі ўдзел у фестывалі прэсы "Залатое Пяро". Адбылася грунтоўная гутарка, у ходзе якой прэм'ер-міністр расказаў аб асновах беларускай палітыкі і сітуацыі ў рэспубліцы, адказаў на пытанні.**

Кіраўнік урада высока ацаніў стан беларуска-германскіх адносін, падкрэсліўшы, што з Германіяй у Беларусі склаліся вельмі дружалюбныя і інтэнсіўныя сувязі.

Імкнучыся мець добрыя сувязі з усімі краінамі свету, Беларусь у той жа час надае асаблівае значэнне ўзаемаадносінам з Расіяй. Праўда, гэта дае падставу некаторым палітыкам папракаць урад у тым, што ставіцца пад пагрозу суверэнітэт нашай рэспублікі. Адхіляючы такія папрокі, прэм'ер-міністр падкрэсліў, што інтэнсіўнасць беларуска-расійскіх сувязей прадыктавана не жаданнем асоб, а характарам нашай эканомікі.

Жыццё паказвае, што ні адна рэспубліка не можа самастойна весці сваю гаспадарку. Менавіта гэтым меркаваннем кіраваліся кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў, падпісваючы Пагадненне аб эканамічным саюзе. Каб саюз "запрацаваў", трэба выпрацаваць і падпісаць яшчэ каля 35 дакументаў.

Беларускі ўрад будзе настойліва дабівацца падпісання ўсіх неабходных пагадненняў.

Адказваючы на пытанні нямецкіх журналістаў, беларускі прэм'ер-міністр расказаў аб палітыцы ўрада ў сферы прыватызацыі, адзначыўшы, што акцэнт робіцца на акцыяніраванне, таму што ў прамысловасці рэспублікі дамінуюць буйныя прадпрыемствы, аб мерах па спыненню інфляцыі.

Гаворачы аб узаемаадносінах Беларусі з краінамі Захаду, кіраўнік урада падкрэсліў, што наша рэспубліка мае патрэбу не ў гуманітарнай дапамозе, а ў інвестыцыях, тым больш што ў Беларусі ўжо створаны ўсе ўмовы для заходніх капіталаўкладанняў, прыняты неабходныя законы па іх абароне.

**Белінфарм.**

*Я так мяркую...*

## Кааліцыйны ўрад — гэта святло ў канцы тунеля

**Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат Беларусі, старшыня Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады**

Набліжаецца чарговая восеньская сесія нашага Вярхоўнага Савета. Цікава, якія пытанні будуць на ёй самымі актуальнымі? Тым больш што эканамічная сітуацыя вакол нас пагаршаецца з кожным днём, і, мабыць, трэба ўжо сказаць, хто ў гэтым вінаваты і калі скончыцца нарэшце падзенне ў эканамічную бездань.

Калі пагартаць газеты, асабліва тыя, якія цалкам кантралююцца Саўмінам, то сцэнарый будучай сесіі амаль што гатовы. Уплывовая праўрадавая фракцыя "Беларусь", якая ўсё больш прэтэндуе на новую, больш гучную назву накшталт "Северо-Западный край", што складаецца з былой партыйнай, а зараз "беспартыйнай" наменклатуры, можа прапанаваць разам з камуністамі, баталістамі-марыністамі і іншымі "яцвягамі" і "скіфамі" цэлы тузін надзіва актуальных і вельмі неабходных для ўздыму нашай заняпалай эканомікі пытанняў.

Спачатку патрэбна, вядома, зняць Станіслава Шушкевіча, бо ён партшколы не канчаў і на вызваленай парткамуністычнай пасадзе не працаваў, а таму кіраваць беларускай дзяржавай няздатны. Таксама трэба вывесці на высокі дзяржаўны ўзровень вельмі пакрыўджаную былым Вярхоўным Саветам рускую мову, замяніць "Пагоню" спачатку на выяву зубра, а потым і на двухгаловага арла і падняць над Домам урада трохкаляровы імперскі сцяг, запазычаны з гэтай нагоды ў Славянскага сабора.

Новая атрыбутыка будзе надзейна спрыяць спачатку стварэнню канфедэрацыі з Расіяй, а потым па прапанове аднаго з самых "незалежных ад усіх" народнага дэпутата, самага актыўнага змагара з карупцыяй і прыватызацыяй, неабходна ісці далей па шляху "создания единого и неделимого государства".

І вось тады не будзе аніякіх праблем ні з нафтай, ні з газам, у магазінах будзе поўна таннай "Московской" і "Советской" каўбасы, а "Русская" гарэлка будзе зноў каштаваць 4 рублі і 62 капейкі. У калгасных парніках сярод зімы будуць вырошчвацца бананы і ананасы, а рабочыя з мінскіх заводаў будуць адпачываць кожны год не толькі ў Сочах ці Кіславодску, а нават у Фларыдзе і на Гаваях.

Іменамі ж членаў беларускага ўрада, які здзейсніць усё гэта, нягледзячы на актыўнае супрацiўленне парламенцкай апазіцыі, будуць у XXI стагоддзі названы вуліцы, параходы, паравозы, калгасы, школы і нават касмічныя караблі. На галоўных плошчах Масквы, Мінска і Шклова ўдзячныя працоўныя ўстановяць шматметровыя бронзавыя скульптуры ініцыятара стварэння аб'яднанай беларуска-рускай дзяржавы пад назвай БелРос, якая ў 2005 годзе абгоніць нарэшце ЗША па вытворчасці мяса, малака і масла. Барэльеф з выявай апошняга прэм'ера незалежнай Беларусі і першага генерал-губернатара "Северо-Западного края" ў складзе БелРоса будзе адбіты на медных "полушках" і срэбных "гривенниках", якія будуць абменьвацца на цэнты і долары ў кожнай вясковай краме і нават у піўбарах. І ўсё гэта можа адбыцца ўжо на гэтай сесіі, асабліва калі кожны дэпутат будзе пры галасаванні націскаць не толькі на сваю кнопку, але і на суседнюю. (Бо трэба ж некаму і ў час сесіі быць у замежных камандзіроўках, адпачынку, на працы і проста дома ці на дачы.)

Цікава таксама, што паабяцае нам наш урад, які, як сведчыць (гл. газету "Рэспубліка") паважаны камуністычны філосаф і прафесар Іван Антановіч, "у цэлым вопытны, кампетэнтны, з гонарам вытрымлівае нялёгкія выпрабаванні", на гэтай сесіі?

Нам ужо абяцалі стабілізацыю і пад'ём эканомікі, сваю валюту і свой флот, свой легкавы аўтамабіль і нават аўтобус і самае галоўнае — танную гарэлку.

А чаго вартыя абяцанні ўрада на апошняй сесіі, што летам і восенню ў калгасаў не будзе праблем з бензінам і мазутам! Пакуль што гэтых праблем няма толькі ў вадзіцеляў тых шматлікіх "інамарак", што запоўнілі вуліцы Мінска.

Самая галоўная бяда нашага ўрада ў тым, што ён не толькі не верыць сваім абяцанням, але, на маю думку, за два гады незалежнасці так і не зразумеў самага галоўнага, што ён урад ужо незалежнай дзяржавы і свае памылкі ўжо не перакладзеш на Маскву, Гарбачова, на саюзныя міністэрствы ці ведамствы. Адсюль і ідуць спробы ўхіліцца ад будучай персанальнай адказнасці. Гэтым можна вытлумачыць імкненне ў калектыўную бяспеку, у розныя эканамічныя саюзы, у "адзіную рублёвую зону", а потым і ў канфедэрацыю і гэтак далей. Наменклатурны вопыт, калі заўжды можна было схавацца за калектыўнае рашэнне райкама, абкама, ЦК ці бюро і не несці ніякай асабістай адказнасці, падказвае ўраду, што, толькі ўступіўшы ў нейкае аб'яднанне, можна, як і раней, рабіць усё, што хочаш, і ні за што не адказваць. Заўважце, што шмат якія міністры вельмі не любяць казаць "наша дзяржава", "наша краіна", а кажуць вельмі сціпла "наша рэспубліка". Прычым большасць з іх свядома не карыстаецца беларускай мовай, нават тыя, хто яе някепска ведае. Відаць, не выпадкова ўсе пасяджэнні Саўміна адбываюцца на рускай мове, бо ў будучай канфедэрацыі беларуская мова будзе непатрэбнай.

Такім чынам, людзі, далёкія ад нацыянальнага адраджэння, выхаваныя ў непрыняцці сапраўднай беларускай культуры і гісторыі, не могуць, нават калі і захочуць, рабіць добрую эканамічную палітыку, як не можа ісці напрасткі сляпы без павадыра.

Пра безвыніковасць і эканамічную бездапаможнасць нашага ўрада добра сказаў доктар эканамічных навук Макс Куняўскі ў сваім артыкуле "Никаких надежд на благотворительность", надрукаваным у жніўні на старонках "Новой экономической газеты".

Таму я як народны дэпутат прапаную на чарговай сесіі разгледзець тры найбольш важныя пытанні:

1) адстаўка сённяшняга ўрада і стварэнне кааліцыйнага ўрада народнага даверу;

2) прыняцце новага закона аб выбарах;

3) унясенне адпаведных паправак у Канстытуцыю і аб'яўленне новых выбараў вясною 1994 года.

У кааліцыйны ўрад павінны ўвайсці прадстаўнікі ўсіх партый, рухаў, прафсаюзаў і грамадскіх арганізацый, якія здольны аб'яднацца на наступных прынцыпах: незалежнасць і поўны нейтралітэт Беларусі, планавы, паступовы пераход да рыначнай эканомікі, сацыяльная абарона працоўных і пенсіянераў у пераходны перыяд, рэжым жорсткай эканоміі энерганосьбітаў і ўласных прыродных рэсурсаў, дзяржаўная манаполія на продаж гарэлкі, тытуню, лекаў і зброі, кардынальная змена падатковай палітыкі на карысць прадпрыемстваў, што працуюць на экспарт, і вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, увод сваёй валюты і жорсткая манетарная палітыка (інфляцыя не павінна перавышаць у месяц 3%).

Што датычыцца структуры ўрада, то я прапаную зрабіць 15 міністэрстваў, ліквідаваць усе дзяржкамітэты, упраўленні і аддзелы і перадаць іх у непасрэднае падпарадкаванне канкрэтным міністрам. У Старшыні ўрада павінен быць першы намеснік, ён жа міністр эканомікі, і два намеснікі, яны ж адпаведна міністры замежных спраў і фінансаў.

Акрамя трох вышэйзгаданых міністэрстваў прапаную стварыць міністэрствы абароны, унутраных спраў, культуры і адукацыі, інфармацыі і сувязі, транспарту, аховы здароўя і экалогіі, юстыцыі, сацыяльнага забеспячэння і занятасці насельніцтва, прыродных рэсурсаў, сельскай гаспадаркі і харчавання, гандлю і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. Членам урада ў якасці міністра без партфеля павінен быць прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі.

Такім чынам, кожная партыя ці рух можа вылучаць сваіх кандыдатаў на гэтыя пасады (гэта могуць быць як члены гэтых партый, так і беспартыйныя) з умовай, што пасля размеркавання пасад міністраў на "круглым стале" і атрымання згоды на ўдзел ва ўрадзе ад канкрэтных асоб Вярхоўны Савет зацвярджае спачатку новую структуру ўрада, а потым і ўсіх яго членаў адным спісам разам з прэм'ер-міністрам.

Пры гэтым я не сумняваюся, што некаторыя найбольш здольныя члены існуючага ўрада — а такія людзі там несумненна ёсць— увойдуць у склад новага ўрада і такім чынам адбудзецца пераемнасць улады. Спадзяюся, што мае прапановы разгледзяць і абмяркуюць і іншыя народныя дэпутаты. Бо, чым хутчэй мы перастанем будаваць казачныя замкі і станем спадзявацца толькі на сябе, тым хутчэй скончыцца бязладдзе і няўпэўненасць нашага жыцця.

*"Залатое Пяро-93"*

## Фестываль, фестываль, фестываль!

**Валеры ДРАЗДОЎ, Сяргей ГРЫЦ (фота)**

Згуртаванне журналісцкіх радоў Беларусі — вось, бадай, галоўны лейтматыў 1-га фестывалю беларускай журналістыкі, які прайшоў у мінулую суботу ў Палацы моладзі. Адзначым адразу: свята атрымалася.

Арганізатарамі яго былі Саюз журналістаў Рэспублікі Беларусь і пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія. Спонсарам фестывалю стала навукова-вытворча-творчая кампанія "BITT", а прадзюсерам — фірма "HELEN VALERY Ltd". Прымала ўдзел у рабоце і вялікая група нямецкіх журналістаў.

З прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі сустрэўся Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. На пытанні адказвалі Паўнамоцны Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь Альбрэхт Готфрыд, кіраўнікі нашых міністэрстваў і ведамстваў. Тэма прэс-канферэнцыі — "Грамадская свядомасць, дзяржаўная ўлада і прэса".

Працавалі розныя секцыі, прайшлі пасяджэнні клуба ветэранаў журналістыкі, асацыяцыі журналістаў-чарнобыльцаў, клуба галоўных рэдактараў. Цікавасць прысутных прыцягнула фотавыстаўка.

Вечарам шасці работнікам друку былі ўручаны прэміі Саюза журналістаў Беларусі за лепшыя работы 1992 года. Лаурэатамі сталі: загадчык аддзела газеты "Звязда" Анатоль Мяснікоў, галоўны рэдактар часопіса "Надзея" Вольга Янчанка, супрацоўніца наваполацкай газеты "Хімік" Святлана Фралова і фотакарэспандэнт РІА "Навіны" Юрый Іваноў. Заахвочвальных прэмій удастоены: ветэран журналістыкі Юрый Іваноў і супрацоўнік часопіса "Вожык" Уладзімір Правасуд.

Адбыўся цікавы шоу-канцэрт, напрыканцы якога выконваў свае песні вядомы спявак Аляксандр Разенбаўм.

Фестываль меў працяг і ў нядзелю. Прэс-канферэнцыю з яго ўдзельнікамі правёў Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч.

Народная газета

*А что на Витебщине?*

## Прохлада, она сближает...

**Нет худа без добра. Жесткий режим экономии энергоресурсов заставит многие семьи в Лиозно чаще собираться дружным кругом у камина, русской печи или "буржуйки".**

Нынешней зимой в райцентре решено перевести на индивидуальное отопление все частные дома, ранее получавшие тепло из централизованной системы. Особенно туго придется жильцам многокомнатных коттеджей, построенных в последние годы: скромной поленницей тут не обойдешься.

## Загудит над озером гудок

**Еще одна станция, кроме электрической, автобусной и лодочной, будет в Новолукомле: железнодорожная.**

В городе у озера начато строительство вокзала, к которому уже в следующем году подадут поезд из Орши. Ну, а потом — хоть куда по стальным рельсам...

## Дикари на кладбище

**Какие-то изуверы повредили пять памятников на крупнейшем в Витебске кладбище Мазурино.**

Осквернители могил крушили священные для всех нормальных людей камни, то ли пробуя неуемную силу, то ли срывая злобу на безгласных плитах. Можно представить, что негодяи сделали бы с человеком, попадись он в ту минуту на их пути...

А незадолго до этого случая было сломано 18 надгробий на воинском кладбище в районе так называемого 5-го полка. Виновниками оказались трое учеников средней школы. Внешне они вроде бы и люди, но души у них "мохнатые"...

**Степан СТАРОЖИЛ.**

## Цену себе таможня знает

**Три недели простояли в Москве автомашины с сырьем для витебского ПО "Монолит".**

Столичные таможенники не разрешали вывоз груза, который был законно оформлен. Эта "пауза" сбила производственный ритм предприятия, навредила интересам потребителей. Цена на материалы из России с учетом лицензий и пошлин превзошла мировой уровень, а задержки транспорта приводят к убыткам, следовательно — к увеличению себестоимости продукции "Монолита", наибольшая доля которой предназначена, кстати, российским заказчикам. Но московскую таможню это не волнует. Ей важно норов показать. Напоследок, перед ликвидацией...

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

## Из лесу, вестимо!

**Без малого 7 миллиардов рублей задолжали объединению "Витебскэнерго" за "голубое" и жидкое топливо предприятия области.**

А такие, как витебский завод "Эвистор", Оршанский инструментальный завод, не расплатились еще за горючее, полученное в июне. Запасов газа хватит только на два месяца, поэтому многие промышленные потребители в спешном порядке покупают мазут. А для малых котельных и частных домов заготавливаются, как встарь, дрова. Их уже нарезано 70 тысяч кубометров.

**Семен БУЛАХОВ.**

*Репортер узнал*

## Контрабанда не прошла

**В Горецком районе при попытке пересечь российско-белорусскую границу задержаны пять суперМАЗов и одна "Вольво", до отказа загруженные медью, стоимость которой составляет почти миллион долларов США.**

Операцию по задержанию контрабанды успешно провели работники местной милиции и Могилевской таможни при содействии местного населения. Следствием устанавливается отправитель груза и кому он должен был быть доставлен.

**Николай АНДРЕЕВ.**

## Армянские плоды белорусского сада

**Отличный урожай впервые за долгие годы дал яблоневый сад колхоза им. Тельмана Лепельского района, восстановленный бригадой армян.**

Пятеро умельцев уже три года трудятся в хозяйстве: покрыли асфальтом дороги и улицы, построили теплицы, а нынче успешно занялись садоводством. Богатые плоды старого сада позволили открыть цех по выпуску яблочного сока. А с будущего года в колхозе будет налажено свое винодельческое производство.

**Степан ДВИНСКИЙ.**

## Черные грибы

**Семь смертей в результате отравления грибами зарегистрировано в Гродненской области.**

Местная санитарно-эпидемиологическая служба обратилась к населению с призывом соблюдать запрет на продажу грибов вне рынков, не употреблять сомнительные грибы, не пренебрегать правилами кулинарной обработки.

**Николай ВИКОЛЬСКИЙ.**

## От кредитов хмурый день светлей

**С начала года процентные ставки по внутренним кредитам Национального банка увеличились примерно в 4 раза и по объему превысили 1 триллион рублей.**

В целом по банковской системе объем выданных с начала года внутренних кредитов составляет около 2 триллионов рублей.

Средняя процентная ставка на внутренние кредиты Национального банка коммерческим банкам республики по состоянию на 1 сентября равнялась 68,3 процента. Сегодня этот показатель уравнен со средней процентной ставкой Центрального банка России и составляет 170 процентов.

**Сергей СНЕГИН.**

*SOS!*

## Помогите, люди добрые!

В каких только ситуациях ни оказываются семьи военнослужащих. Вот и нашей приходится бросать сигнал "SOS". Родом из Беларуси, но где только муж-авиатор не служил! Приехали в Минск, а тут говорят: "С квартирой придется подождать". Пошли на частную. Казалось, потерпим — и все будет нормально. Но на днях хозяйка заявляет: "Нужно освободить, у меня изменились планы..."

Мы понимаем, у нее изменились планы, но куда нам — мне, мужу и 19-летнему сыну податься?

Примерно через год мы, конечно, получим нормальное жилье. Но как быть сейчас? Может, кто-нибудь из минчан откликнется, поможет выйти из трудного положения? Мой рабочий телефон 29-14-52. Людмила Ивановна.

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь N 639*

## Аб парадку экспарту тавараў у Расійскую Федэрацыю

У мэтах ажыццяўлення рэальных крокаў па стварэнню эканамічнага саюзу і ў сувязі з падпісаным у верасні 1993 г. пагадненнем аб аб'яднанні грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь з грашовай сістэмай Расійскай Ферэрацыі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Адмяніць кваціраванне і ліцэнзаванне экспарту тавараў у Расійскую Федэрацыю, за выключэннем кваціравання прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння і тавараў народнага спажывання, што пастаўляюцца ў адпаведнасці з міжурадавымі пагадненнямі, захаваўшы існуючы парадак ліцэнзавання экспарту спецыфічных тавараў (работ, паслуг).

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.КАЎКО.**

23 верасня 1993 г.
г.Мінск.

# Гвардыя трымае марку



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

— Дывізія была сфарміравана ў 1942 годзе і ў жудасных баях пад Сталінградам заваявала сваю першую славу. Гэта каштавала вельмі дорага. Палавіна ўсіх страт у вайне дывізія панесла менавіта ў Сталінградскай бітве. Тры тысячы чалавек загінулі ў арлоўска-курскай аперацыі, шэсць — пры вызваленні Беларусі. Вайну гвардзейцы скончылі на Эльбе, адкуль дывізія сваім ходам вярнулася ў Мінск у жніўні 1945 года. Напачатку жылі ў зямлянках, а першыя казармы былі пабудаваны толькі ў снежні.

Сёння 120-я гвардзейская дывізія — адно з лепшых вайсковых злучэнняў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

У дзень, калі адзначалася 50-годдзе прысваення дывізіі звання гвардзейскай, па страявым пляцы ўрачыстым маршам прайшлі пад сцягамі, натуральна, далёка не ўсе воіны дывізіі. Баявая вучоба ў класах, на трэнажорах, у палявых умовах не прыпыняецца нават у святы. На палігоне мы былі сведкамі выкання воінамі-танкістамі кантрольных стрэльбаў з ходу па рухомых цэлях. Сярод лепшых камандзір танкавага батальёна Сяргей Лісіца назваў старшага сяржанта Сяргея Лопуха, лейтэнанта Аляксандра Мінеева, радавога Віктара Слапіка, сяржанта Дзмітрыя Шалімава. Як адзначыў камандзір дывізіі генерал-маёр Уладзімір Пацкоў, сёння для вучобы не самыя спрыяльныя часы — не хапае паліва, складана з матэрыяльным забеспячэннем. Але метадычнае майстэрства камандзіраў застаецца высокім. А гэта значыць, што паранейшаму будуць рыхтавацца сапраўдныя асы вайсковай справы. Дарэчы, самога Уладзіміра Іванавіча шануюць за тое, што захоўвае ён у дывізіі баявыя традыцыі воінаў-франтавікоў.



❑

**Старшы сяржант Сяргей ЛОПУХ — адзін з лепшых воінаў.**

❑

**Урачысты марш гвардзейцаў.**

*Прыслушаемся!*

# Туризм тоже может создать авторитет государству

Сергей ПЛЫТКЕВИЧ,
Анатолий ГУЛЫЙ

Туризм, международный туризм... Сегодня, когда большинству жителей Беларуси жить становится все хуже, относимся мы к этим словам, понятиям по-разному. Но тем не менее туризм как отрасль народного хозяйства, как вид отдыха существует, с Беларусью знакомятся иностранцы, многие наши сограждане открывают для себя все новые и новые государства. Существуют у туризма и свои проблемы. О них мы и решили поговорить с коммерческим директором АО "Белинтурист" Владимиром Маковским.

**— Владимир Брониславович, в конце февраля руководители всех крупнейших туристских фирм республики собрались вместе, чтобы бросить клич о помощи. Тогда прозвучала мысль, что если государство не повернется лицом к проблемам туризма, то понесет огромные убытки, а многие туристские фирмы просто-напросто разорятся. Прошло полгода. Что изменилось?**

— Ничего, но мы стали большими оптимистами. Взывать о помощи — это самое простое, что можно предпринять в критической ситуации. Мы начали искать пути выхода из создавшегося положения. Мы поняли, что в отдельности будет выжить очень тяжело, и начали объединяться. Три ведущие турфирмы — "Беларусьтурист", "Белинтурист" и "Спутник" — приняли решение о создании ассоциации.

**— Хорошо, объединиться решили три самые мощные турфирмы республики. А как быть остальным, которые маленькие, которые частные? В последнее время мы только и слышим: монополизм — это плохо, но вы, похоже, как раз и стремитесь монопольно владеть туристским рынком...**

— Сегодня в республике более 700 туристских фирм, и Ассоциация малых турагентств по численности значительно превышает наши три крупные турфирмы. И если эта ассоциация не будет конкурировать с нами, то мы, конечно, можем их проглотить. Но, безусловно, многое зависит от них самих.

**— Владимир Брониславович, в последнее время шел разговор о создании единого государственного органа, который координировал бы всю деятельность в области туризма. Вы как профессионал поддерживаете эту идею?**

— Если это будет действенный орган — я за, если все это делается только для того, чтобы создать еще одно министерство — я против.

**— Сейчас идет подготовка нового закона о туризме...**

— Да, мы с проектом уже ознакомились и особых замечаний не имеем. Но проблема в другом: у нас законы обычно не работают. Поэтому я никаких иллюзий и по поводу этого закона не питаю. Все мы уже фактически находимся в рыночной стихии. Поэтому каждый должен анализировать и думать сам. Если законодательство помогает работе — отлично, не помогает — нужно выживать самим. Вот почему и создается наша ассоциация. Сегодня, например, базы "Беларусьтуриста" практически пустуют. А у нас есть возможность привлечь иностранных туристов. Если бы нам профсоюзная база дала возможность продавать путевки, то мы продавали бы. Они имели бы свое, мы — свое, в итоге в выигрыше оказались бы все.

**— Владимир Брониславович, безусловно, планы у вас прекрасные. Но что они значат для рядового жителя Беларуси, который сегодня еле-еле сводит концы с концами?**

— Сегодня мы не можем одинаково бедно жить, как жили всю жизнь. Тот, кто больше работает, тот больше зарабатывает, у него больше возможностей. Но мы не должны забывать и о малоимущих. Не обязательно отдыхать в Болгарии, можно хорошо отдохнуть и у нас в Беларуси. Но для этого необходимо создать сферу услуг на базах в Бобруйске, на Браславских озерах, которые пока еще в ужаснейшем состоянии. И наша ассоциация, разумеется, будет этим заниматься. Что же касается туризма международного, то я должен сказать, что в последнее время он меняется. Он стал полярным. С одной стороны — коммерческий, когда профессионалы под крышей туризма едут на работу, с другой стороны — элитный, познавательный туризм. И такой туризм, я должен сказать, создает авторитет нашему государству. Потому что все привыкли, что граждане бывшего Советского Союза едут без единого доллара в кармане, с чемоданами, набитыми вещами, которые собираются там продать и что-то купить. Наши же туристы едут, чтобы тратить деньги и получать удовольствие. Скажем, предлагается какое-то вечернее мероприятие, которое стоит по тридцать долларов с человека. Немцы отказываются, а наши все идут! И зарубежные компаньоны не могут понять, что случилось с бывшими советскими туристами. А все объясняется просто: наш белорус психологически стал чувствовать себя наравне с представителем любого другого государства. Раньше мы кланялись всем, мы были бедны. Сегодня пока еще многие граждане Беларуси таковыми и остаются, но те, которые разбогатели, которые получили возможность выехать за пределы родины, те создают ореол нашей нации. Поймите, я нисколько их не идеализирую, люди выезжают самые разные, но факт есть факт: мы постепенно становимся равными со всеми другими людьми. Наш клиент становится уважаемым, потому что он платит деньги.

**— Владимир Брониславович, что бы вы хотели пожелать тем гражданам нашей республики, которые уже имеют возможность поехать за рубеж, и тем, у кого такой возможности пока нет?**

— Тем, кто может позволить себе отдых за пределами Беларуси, я посоветовал бы планировать его заранее, чтобы или мы, или любая другая туристская фирма могли обеспечить его на должном уровне. Для тех, кто такую роскошь пока не может себе позволить, я хотел бы, чтобы они находили возможность работать лучше и больше, чтобы тоже стать нашими клиентами.

*Карупцыя без маскі*

# Недатыкальныя

Іван ГЕРАСЮК,
аглядальнік "Народнай газеты" па пытаннях маралі і права

На адной з нядаўніх сустрэч з журналістамі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч заявіў, што яму невядомы даказаныя факты карупцыі высокапастаўленых чыноўнікаў ва ўрадзе і яго структурах. На жаль, пакуль што гэта сапраўды так.

Успомнім, колькі пісалі газеты пра аферы з апраўамі для акуляраў, пра перакачку многіх тысяч долараў у Польшчу функцыянерамі з Міністэрства хлебапрадуктаў, пра мільённыя здзелкі з нафтай. Найбольш суровым пакараннем для кіруючых дзеячаў, замешаных у гэтых справах, было звальненне з займаемай пасады. Праўда, пракуратура рэгулярна паведамляла: "узбуджана крымінальная справа". Толькі дзе гэтыя справы сёння?

Праходзяць месяцы, і хутка мы будзем весці лік на гады, але на лаве падсудных нікога з чыноўнікаў усё яшчэ не відно. Няўжо нашы праваахоўныя органы не могуць за такі працяглы час расставіць усе кропкі над "і"? Мо гэтыя справы ўжо пасьпяхова "пахаваны"? Прэса маўчыць...

Сур'ёзнай перашкодай для работнікаў следчых органаў з'яўляецца так званая дэпутацкая недатыкальнасць. Усе мы выдатна ведаем, як праходзілі мінулыя выбары ў Вярхоўны Савет і асабліва мясцовыя органы прадстаўнічай улады. У час камуністычнага панавання кожнаму больш-менш значнаму начальніку райкамамі КПБ выдзялялася дэпутацкае месца і забяспечвалася недатыкальнасць.

Пасля правалу жнівеньскага путчу ўладары высокіх крэслаў кінуліся грэбці пад сябе ўсё, што можна, не зважаючы на закон. І засталіся беспакаранымі. Бо гэтакія ж калегі-дэпутаты не давалі згоды на прыцягненне па сутнасці злачынцаў да крымінальнай адказнасці.

Такіх прыкладаў мноства. Кругавая парука наменклатуры была, ёсць і будзе, пакуль не зменяцца законы аб статусе народных дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых Саветаў. Тое, што пры цяперашняй уладзе такія змены немагчымыя, — адназначна. Бо вельмі многім трэба было б адразу з залы пасяджэння ўехаць у следчы ізалятар.

Успамінаецца судовы працэс па іску тагачаснага кіраўніка справамі Магілёўскага абкама КПБ А.Сайкова да "Народнай газеты" нібыта за знявагу яго годнасці ў публікацыі "Яго высокасць — таварыш Сайкоў". Партыйны функцыянер дэманстратыўна не з'яўляўся на судовыя пасяджэнні па "ўважлівай прычыне" — "выезжал по вызову ЦК КПСС". Ішоў 1991 год. Ужо тады доказаў для прыцягнення камуністычнага спецыяліста да крымінальнай адказнасці было больш чым дастаткова. Аднак згода на пазбаўленне яго дэпутацкай недатыкальнасці была атрымана толькі цяпер, у 1993 годзе. Прычым А.Сайкоў выканаў сваю пагрозу, выказаную ў кабінеце суддзі, — адхіліць ад вядзення справы следчага А.У.Харытановіча.

"Народная газета", як і іншыя выданні, пісала пра ўдалы бізнес былога сакратара Мінскага гаркама КПБ Мар'яна Місуны за кошт дзяржаўных рэсурсаў з рэспубліканскага фонду стабілізацыі рынку. Бізнесменам ён стаў літаральна праз месяц пасля жнівеньскага путчу 1991 года. Дзе ўзяліся на гэта сродкі — іншая справа. Цікава, што менавіта яму выпаў гонар вывезці і прадаць сотні тысяч бутэлек гарэлкі за межы рэспублікі, а дзяржаўныя структуры чамусьці адразу "забыліся", як працаваць напрамую з пастаўшчыкамі. У выніку 20 красавіка 1993 года ў адносінах да генеральнага дырэктара НВКТ "Зеніт" М.І.Місуны была ўзбуджана крымінальная справа. Ну і што?

Так супала, што цяпер гэтым займаецца старшы следчы па асабліва важных справах следчага камітэта Рэспублікі Беларусь палкоўнік міліцыі А.У.Харытановіч.

— Ці не маглі б вы, Аляксей Уладзіміравіч, не закранаючы следчых сакрэтаў, расказаць, у якім стане сёння гэта справа?

— На жаль, канец яшчэ далёка. Гісторыя з дэпутатам Сайковым паўтараецца. Ёсць неабходнасць дапытаць М.І.Місуну, але ён па выкліку не з'яўляецца. Я звяртаўся з просьбай пасадзейнічаць нашай сустрэчы ў Мінскі гарсавет і атрымаў у адказ паперу за подпісам намесніка кіраўніка справамі Мінгарвыканкама А.Лашко з такой высновай: "абавязаць яго з'явіцца ў следчы камітэт не ўяўляецца магчымым".

— Давайце пакуль што пакінем самога Мар'яна Іосіфавіча ў спакоі і больш падрабязна пагаворым пра яго фірму. Як мне здаецца, яна карыстаецца асаблівай прыхільнасцю нашых урадавых колаў...

— Дзіўна перш за ўсё тое, што навукова-вытворча-камерцыйнае таварыства "Зеніт", генеральным дырэктарам якога з'яўляецца М.І.Місуна, згодна з юрыдычным адрасам знаходзіцца ў пасёлку Волма Смалявіцкага раёна. На справе ж яго офіс размяшчаецца ў памяшканні Міністэрства замежных спраў (!) Рэспублікі Беларусь. Якому яшчэ камерсанту даступна такое? Больш таго, яны карыстаюцца ўрадавай тэлефоннай сувяззю! Тэлефон 16-56. Дзе вы бачылі такое, каб камерсант быў уведзены ў ранг высокапастаўленага дзяржаўнага дзеяча?

— Не сумняваюся, што гэта тлумачыцца камуністычнай біяграфіяй наваяўленага бізнесмена і цеснымі сяброўскімі сувязямі былых партыйцаў. У нас жа і ў Савеце Міністраў нямала былых членаў ЦК і нават бюро ЦК КПБ...

— Гэтыя абставіны будуць выяўлены, хоць яны для следства і не вельмі істотныя. Значна важней, як М.І.Місуна атрымаў доступ да дзяржаўных рэсурсаў для разгортвання сваёй камерцыйнай дзейнасці.

24 красавіка 1992 года намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.М.Косцікаў зацвердзіў пратакол аб узаемных пастаўках нафты ў Беларусь і матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, прадуктаў, тавараў народнага спажывання акцыянернаму таварыству "Нафтагаз" на 1992 год. Падпісалі яго з нашага боку намеснік старшыні Дзяржэканамплана А.Боршч і намеснік старшыні Дзяржкамнафтапрадукта В.Заранок.

— Я знаёмы з гэтым пратаколам, і мне адразу кінулася ў вочы, што тавары з нашай рэспублікі ў Расію з дзяржаўных рэсурсаў будзе пастаўляць чамусьці нейкае таксама навукова-вытворча-камерцыйнае таварыства "Эксінвест". Дзяржаўныя органы зноў раптоўна "забыліся", як весці гандлёвыя справы самім. У пратаколе запісана, што НВКТ "Эксінвест" для рэалізацыі на экспарт (для кампенсацыі расходаў) выдзяляецца 50 тысяч тон авіяцыйнага паліва, 120 тысяч тон дызельнага паліва, а таксама шмат-шмат іншых розных хадавых тавараў. Незразумела мне, чаму высокія ўрадавыя чыноўнікі спынілі свой выбар на камерсантах з Гродна? Няўжо не знайшлося ахвотнікаў у Мінску пракруціць такую супервыгадную здзелку за кошт дзяржавы? Ці выбар тлумачыцца тым, каб быць далей ад сталічных вачэй? І ўвогуле, што гэта за "Эксінвест"?

— Многае становіцца зразумелым, калі ведаеш, што адным з заснавальнікаў таварыства значыцца нехта Самашчаў Сяргей Уладзіміравіч.

— А яго бацька У.В.Самашчаў, таксама былы партыйны дзеяч (намеснік загадчыка аддзела ЦК КПБ), працаваў у той час пастаянным прадстаўніком Савета Міністраў Беларусі ў Расіі?

— Менавіта так. Распараджэнне аб прызначэнні У.Самашчава на гэту пасаду, дарэчы, таксама падпісана намеснікам Старшыні Савета Міністраў Косцікавым. Дык вось. Гэты самы "Эксінвест" ніколі і ніякай навуковай ці вытворчай дзейнасцю не займаўся. Увесь яго бізнес укладваўся ў прымітыўнае "купі-прадай", да таго ж з дапамогай дзяржаўнай кішэні. Цікава і тое, што Самашчаў-бацька акрамя саўмінаўскай зарплаты рэгулярна атрымліваў яшчэ адну дырэктарскую зарплату ў "Эксінвесце". У той час, калі ён нібыта адстойваў інтарэсы Беларусі ў Маскве, у Гродне ў табелі рабочага часу яму адзначалі паўнацэнны васьмігадзінны рабочы дзень. Да таго ж Самашчаў атрымліваў часам не толькі сваю зарплату, а па даверанасці і іншых асоб. Напрыклад, таго ж прэзідэнта акцыянернага таварыства "Нафтагаз" Л.Рафікава, які ў "Эксінвесце" штодзённа па 8 гадзін актыўна кансультаваў гродзенскіх бізнесменаў, адначасова знаходзячыся ў Маскве.

— Так што здзіўляцца рэжыму найбольшага спрыяння для "Эксінвеста" з боку ўладных структур не даводзіцца...

— Здзіўляцца даводзіцца іншаму. Ужо згаданы ўрадавы пратакол быў падпісаны прадстаўніком "Эксінвеста" ў той час, калі гэтая фірма яшчэ юрыдычна не існавала! Пратакол падпісалі 24 красавіка 1992 года, а "Эксінвест" зарэгістраваны Гродзенскім райвыканкамам толькі праз 4 дні пасля гэтай падзеі.

— Няўжо ж урадавыя чыноўнікі такога высокага рангу, выдзяляючы мільярдныя сродкі з дзяржаўнай кішэні, нават не пацікавіліся, з кім маюць справу? Няўжо не ведалі, што фірмы такой няма?!

— Думаю, хай урад сам разбіраецца ў кампетэнцыі сваіх работнікаў і выяўляе, што яны ведаюць, а што — не. Мая ж справа канстатаваць тое, што ёсць.

— Наколькі мне вядома, У.Самашчаў не меў права быць адначасова і прадстаўніком Саўміна, і бізнесменам...

— Так. Гэта забараняў яму Закон "Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь", адпаведныя змены ў які былі ўнесены 15.01.92 года і дзейнічалі з моманту прыняцця.

— Відавочна, што Саўмін доўгі час прыкідваўся, быццам бы не ведае, дзе і як зарабляюць яго чыноўнікі-бізнесмены, бо толькі, калі стала відавочным, што шыла ў мяшку не схаваеш, 29 верасня 1992 года Кебіч звольніў У.Самашчава з займаемай пасады, і то "згодна з пададзенай заявай". Мусіць, калі б заявы не было, то бізнес працягваўся б і далей. Аднак цікава, як да гэтага бізнеснага павуціння далучыўся партыйны камерсант Місуна? Пра яго таварыства ва ўрадавых дакументах не згадвалася...

— Ніякія пасрэднікі падпісаным пратаколам не прадугледжваліся, але, верагодна, тут кіраваліся прынцыпам: "адзін пішам, два ў памяці". Пра Місуну помнілі. Падрабязна гаварыць пра тое, як затрымалі гарэлку на граніцы Беларусі, пры якіх абставінах, не буду, бо пра гэта ўжо дастаткова пісалася ў газетах. Зараз у следчым ізалятары знаходзіцца камерцыйны дырэктар НВКТ "Зеніт" С.Дзмітрыеў. Не сумняваюся, што ў гэтай справе ён — асоба другарадная. Пра многае ён нават не здагадваўся і не ўсё ведае. Яго проста ўцягнулі ў гэты бізнес.

— А ці дастаткова доказаў ёсць для таго, каб прымусова пагутарыць з Місунам, калі ён не жадае з'яўляцца ў следчы камітэт?

— Так. Доказаў дастаткова. І таму 16 жніўня 1993 года я звярнуўся да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь В.І.Шаладонава з просьбай унесці прадстаўленне ў Мінскі гарадскі Савет на атрыманне згоды на прыцягненне да крымінальнай адказнасці і арышт дэпутата М.І.Місуну.

— Сёння ўжо канец верасня, а ваша просьба ўсё яшчэ не разгледжана? Не разгледжана. Тады пытанне: ці не дапускаеце вы, што і на пракурора, і на суд будзе аказаны моцны ціск з боку розных структур, каб справу ціхенька спусціць на тармазах і закрыць, як гэта ўжо было неаднойчы ў мінулым?

— Так, гэта магчыма. У гэтым мяне пераконвае і змест запіскі С.Дзмітрыева са следчага ізалятара на волю. Вось урывак з яе (на мове арыгінала): "У М.И. (Мар'яна Іосіфавіча Місуны. — **Аўт.**) бери лицензию. Пускай идет к прокурору республики и поговорит с ним... У М.И. вся суд. коллегия знакомая. Пугай его, скажи, что я еще молчу, но если не поможет заговорю, пускай не надеется, что он чист, пойдет как "паровоз".

— Крутавата... Нават справу больш дробнага кампартыйнага клерка Сайкова вам не давялося давесці да канца. Як ён і абяцаў, вас ад расследавання яго справы адхілілі. Хоць я і не веру ў поўную камуністычную ўсёўладарнасць, але ці не здарыцца гэтак жа і цяпер, калі вы дабраліся да больш высокага ўзроўню?

— Спадзяюся, што хоць гэту справу мы давядзём да лагічнага канца. Інакш веры ў закон і справядлівасць не будзе ні ў мяне, ні ў вас, ды, пэўна, і ў многіх іншых людзей.

— Дзякуй за гутарку. Будзем чакаць, пакуль удасца падрыхтаваць для нашых чытачоў матэрыял з залы суда па гэтай справе.

❑

Станіславу Шушкевічу невядомы даказаныя факты карупцыі ў вышэйшых эшалонах улады. А адкуль яны будуць, калі справы да суда не даходзяць і часта развальваюцца з-за гэтай самай дэпутацкай недатыкальнасці альбо з-за таго, што на выручку прыходзяць тыя, з кім злачынцы раней разам сядзелі ў кіруючых крэслах. А тыя, што даходзяць? Нядрэнна было б саветнікам Станіслава Станіслававіча пацікавіцца, напрыклад, па якіх крытэрыях адбірае Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь справы для разгляду ў першай інстанцыі. Далёка не кожны камерсант удастойваецца такога гонару, звяртаючыся з асабістай заявай у Вярхоўны суд, як хто-кольвечы з Гродна. Калі б гэта было вядома Станіславу Станіслававічу, відаць, многа што стала б яму зразумелым. Бо карупцыя — гэта не злоўжыванне некаторых асоб. Гэта добра арганізаваная сістэма, крымінальнае павуціне, якое апляло ўсю Беларусь. Справа за тым, каб знайсці павука, які сядзіць у сярэдзіне гэтага павуціння. Толькі, баюся, прозвішча яго не здолее назваць нават старшыня парламенцкай Камісіі па вывучэнню дзейнасці камерцыйных структур, створаных пры органах дзяржаўнага кіравання, напорысты народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка.

